 




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (503) | ГОД X | 17 КАСТРЫЧНІКА 1965 года | ЦАНА 60 гр.







## ГРАМАДАЎСКАЯ СЕСІЯ 27 КАСТРЫЧН КА

Папулярна - навуковая сесія, прысвечана Грамадзе, перанесена з 25 кастрычніка на 27 кастрычніка г.г. Сесія, як мы ўжо інфармавалі, адбудзецца ў Беластоку і звязана яна са святкаваннем 40 гадавіны стварэння і дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

## ЧЫМ ХВАРЭЕ ГАЙНАЎШЧЫНА

Меліярацыя стварае перспектывы для развіцця жывёлагадоўлі, а гадоўлі быдла ў асаблівасці. Дзесяткі і сотні мільёнаў злотых выдаткаваных на асваенне здзічэлых, падмоклых сенажацяў прынеслі, так сказаць, першыя даходы, першыя дадатковыя мільёны літраў малака ад прагавітых на траву красуляў. Аднак вынікі чэрвеньскага спісу паказалі не настолькі рост малочнасці, а наколькі скарачэнне пагалоўя быдла ў Гайнаўскім павеце за адзін год на 981 штуку — амаль на тысячу штук!

Гайнаўскі гаспадар не намагаецца поўнасцю выкарыстаць створаныя яму магчымасці абароту і прыбытку. Ён, відаць, задаволены тым, што цяпер замест двух кароў можа трымаць адну ляпей адкормленую карову ды яшчэ прадаваць сена для тых, каму не хапае яго нават для адной каровы. Але з часам перастануць людзі браць сена нарасхват, бо больш-менш кожны будзе мець яго ўдастатак. З году ў год расце размах меліярацыйных работ і ў канцы канцоў калісьці прыдзе такі час, што ўрэшце ўжо не будзе дзе і чаго меліяраваць.

Таго можна спадзявацца, але як гаворыцца ў пагаворцы: «Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць». Гэту пагаворку адрасую, перш за ўсё, аграномам у гайнаўскіх вясковых аграномках. Яны надта слаба цікавяцца гадоўляю быдла, а некаторыя з іх увогуле, як кажуць, «не заварочваюць сабе галавы каровамі», пільнуюць толькі канцылярскіх сталоў у грамадскіх радах.

Асноўны сэнс гадоўлі быдла ў яго малочнасці. Якая ёсць гарантыя, што малочнасць будзе калі-небудзь такая, што апраўдае кошты меліярацыі ўсіх урочышчаў, лугоў і нават лужочкаў-азяркоў на Гайнаўшчыне? Аднаго сена замала, каб круглы год утрымаць высокія надоі малака. Між іншымі кармамі, моцна патрэбны карове сілас.

У Пасынках на Бельшчыне старшыня мясцовай грамадскай рады наракаў перада мною, што пасынкаўцы прызначаны ім цэмент на будову сіласных ямаў «пускаюць» на іншыя патрэбы — от, на будову фундамента пад клуню, альбо слупікаў для агароджы пляца альбо цваняцца адспекулёўваць другім гаспадарам. Вядома, цэмент у цяперашні рухлівы час прынадная рэч і мала хто задумоўваецца, колькі траціць на тым, што замест пабудаваць сабе сіласную яму на зіму, будуе фундамент або паможа хутчэй пабудаваць суседу.

Негаспадарскія камбінацыі гаспадароў з цэментам і іншымі будаўнічымі матэрыяламі прызначанымі на будову сіласных ямаў, даводзяць да белай гарачкі патрыётаў дубіцкіх, нараўкаўскіх ці кленіцкіх.

(Працяг на стар. 5)

## РЭПАРТАЖ НЕЗВЫЧАЙНЫ



Ад'юнкта Кракаўскай Мастацкай акадэміі Мікалая Каханоўскага у Белавежы асабліва зацікавіла мясцовае будаўніцтва.

## Вераснёвая Белавежа

Многія на пачатку сумняваліся, ці мастацкі пленэр Белавежы ўдасца. Зацята ўчапіўся, аднак, за яго ініцыятар — мастак Мікалай Валкавыцкі, сам родам з Белавежы і энтузіяст яе. Мінуў залаты верасень, і пленэр за намі. Удаўся на славу. Расславіў Пушчу і Беласточчыну. І доўга яшчэ будзе снавацца аповесць аб ім.

Але не я бяруся расказваць вам аб вераснёвым першым мастацкім пленэры Белавежы.

Расқажа аб ім наша рэдакцыйная сяброўка — наш мастак Тэрэса Бэйнаровіч, якая прымала ўдзел у пленэры. Тэрэса была таксама членам арганізацыйнага камітэта.

«...32 мастакі, якія з'ехаліся ў Белавежу, прадстаўлялі ўсе кірункі і найважнейшыя мастацкія цэнтры ў краіне. Кожны знайшоў у Пушчы сабе тэму. Пушча аказалася невычэрпнай крыніцай для працы, і ўсе зразумелі, што мастацтва адарванае ад натуры — з'яўляецца няпэўным.

Гасцей нашых мы найперш абвезлі па Пушчы, каб яны яе зразумелі. І вось... Ноч. Пушча. Гарыць касцёр. Вакол людскія твары. Паляўнічы «бігос». Воддаль рык аленяў. Мясцовы жыхар, стары Патока, снуе свае аповесці аб пушчанскіх прыгодах. Узышоў месяц і акунуўся ў млечнай імгле, што слалася па лугах Старой Белавежы. Патока засеў у зараслях і зайграў паляўнічыя гейналы з дзіўнымі назвамі ў родзе «На смерць птушкі». Твары застылі і заслухаліся. Падумалі — навошта аж заграніцу ехаць па экзотыку, калі найлепшую знойдзеш у Белавежы.

...І ўсе хапіліся за маляванне. Ішлі ў Пушчу. Там сядзелі безупынна. Выракаліся снеданняў, абедаў, бо не хацелася ім выходзіць з Пушчы. Праф. Свідэрскі маляваў да другой гадзіны ўночы. Учапіўся да пушчанскага месяца. Вайцех Філіпяк напісаў карціну з ночы ў Старой Белавежы, Зыгмунт Катлярчык з Торуня — карціну «Пушча ноччу».

(Працяг на стар. 3)



На ўскраі пушчы прыталілася вёсачка Лішчаная на Сакольшчыне. Налева — будынак з ганкам хата школа.
Фота — (СЯ)

НОВЫЯ ВЕРШЫ

Міхась Машара

## У ДАРОЗЕ

Лясы, узгоркі, пералескі,
Смугой авеяны прастор
і кані крык тужліва-рэзкі
над плёсам сонечных азёр.

Імкне дарога... на сустрэчу
Малюнкі родныя кругом.
Бы ўчора, ў лузе на зарэччу
брадзіў па росах пастухом.

Я сам з пакоем штось не ў згодзе,
яшчэ з даўна, з юнацкіх дзён,
і ў самай грознай непагодзе,
люблю імпэт, люблю разгон.

Бяжыць машына поўным ходам
Даў волю гэтаму каню.
А можа дзесь за паварота
сваё юнацтва даганю.

Дубалты. 5.VII.65 г.

 

 



**У цэнтры Гаваны знаходзіцца Плошча Рэвалюцыі. Пасярэдзіне гэтай вялікай плошчы стаіць абеліск з белага мармуру вышынёю ў 143 метры, пастаўлены ў гонар вялікага кубінскага рэвалюцыянера Джоэ Марці. Плошча Рэвалюцыі з'яўляецца месцам масавых мітынгаў жыхараў сталіцы Кубы.** (а-лів)

# Новы навучальны ГОД У СССР

У гэтым годзе на вышэйшых установах Савецката Саюза на I курсе навуку пачало 836 тысяч студэнтаў. Студэнты атрымоўваюць стыпендыі ў суме ад 20 да 60 рублёў (у залежнасці ад курса); тыя, хто добра вучыцца, атрымоўваюць яшчэ 25% дадатку. Існуюць таксама стыпендыі па 80 рублёў у месяц, якія атрымоўваюць найлепшыя студэнты, найбольш таленавітыя.

Зараз на вышэйшых установах у Савецкім Саюзе вучыцца 21 тысяча чалавек з 119 краін свету. Самую вялікую групу іншаземцаў — каля 10 тысяч — складае моладзь з маладых рэспублік Азіі і Афрыкі, а таксама з Паўднёвай Амерыкі. (а-лів)

# ЯРМАРКІ

**На ярмарцы ў Вене (Аўстрыя) вялікае зацікаўленне ў наведвальнікаў выклікалі экспанаты, якія былі паказаны на секцыях польскіх фірмаў замежнага гандлю.**



**А на міжнароднай ярмарцы ў Брне аўтамабільная прамысловасць ГДР паказала грузавыя машыны новага тыпу «Ifa—W—50».**




# ЗАМЕСТ ТАБЛЕТКІ З КРЫЖЫКАМ

Што можа быць прычынаю галаўнога болю?

З шматлікіх прычын падамо некалькі:

- змучанасць, недахоп сну;
- вычарпальная праца;
- усялякае атручэнне арганізма: нікацінам, кафеінам, недахоп кіслароду, злоўжыванне лякарствамі і супакойваючымі сродкамі;
- прастуда, пачатак інфекцыйнай хваробы;
- запаленчы працэс косных ямін галавы або зубоў, боль страўніка;
- нязносны галас, які доўга прадаўжаецца;
- неразважлівае карыстанне з сонца;
- прабыванне ў дрэнна праветраным пакоі;
- гнеў, страх, раздражненне, павышаны ціск, неўроз;
- голад або прага;
- захворванне нырак, сэрца, вантробы;
- гарманальнае захворванне, менструацыя ў жанчын;

Толькі ў некаторых выпадках дазваляецца ўзяць таблетку з крыжыкам і толькі тады, калі прыём лякарства мае сэнс, што за некалькі гадзін ізноў не будзем курыць папярос, не будзем піць гарэлкі. Можна раз прыняць таблетку, але нельга гэтага паўтараць пры любой аказіі. Таблетка на заступіць нам сну ці прабывання на свежым паветры. Часты прыём таблетак можа, па-першае, быць амаль закаранелай прывычкай, а па-другое, можа перастаць памагаць.

Ці можна пазбегнуць галаўнога болю? Маем на ўвазе, зразумела, толькі здаровых людзей. Адным з найлепшых спосабаў з'яўляецца свежае паветра. Найлепш паспрабаваць «кіслароднай таблеткі» пасля канферэнцыі ці нарады, дзе надта ж многа дыму. Іншы раз хопіць удыхнуць свежага паветра пры адчыненым акне, і боль пачынае ўступаць. Яшчэ лепш памагае шпацыр. Дыхаць трэба хутка і глыбока. Кровазварот паскараецца. Мазгавыя тканкі атрымоўваюць свежую порцыю багатай у кіслярод крыві.



Раніцай, як толькі ўстанеце з пасцелі, удыхніце хутка і глыбока свежага паветра з адчыненага акна. Памыцца халоднай вадою. Ісці на работу пехатою і глыбока дыхаць.

Калі пры галаўным болю робіцца горача і чырванее твар, палажыце на карк халодны кампрэс. Крываносныя сасуды скурчацца, зменшыцца падача крыві, зменшыцца ціск, галаўны боль зменшыцца, а потым галава зусім перастане балець. Лепш пахадзіць па халоднай вадзе, чым выпіць парашок (можна хадзіць і ў ванне!). Пасля 10 мінут ступні энергічна выцерці шорсткім ручніком і надзець цёплыя шкарпэткі.

Падкрэсліваем: усялякія хатнія метады можна прымяняць толькі тады, калі галаўны боль выступае спарадычна. Калі паўтараецца часта, ёсць настойлівы і перашкаджае ў працы — абавязкова трэба ісці да лекара.

Калі галаўны боль выступае вечарам, пры пахмурным надвор'і, можна меркаваць, што прычынаю з'яўляецца дрэнны зрок. Трэба абавязкова пайсці да лекара-акуліста. Калі трэба — купіць сабе акуляры.

**ПРЫПАМІНАЕМ: да галаўнога болю нельга адносіцца абыякава. Таблеткі з крыжыкам — гэта не лякарства, якое можна прымаць пастаянна. Сродкі ад галаўнога болю маюць у сабе фенацэтыну, якая затручвае арганізм. Хаця прымяняюцца малымі прыёмамі, але на працягу тыдняў, месяцаў могуць зрабіць у нашым арганізме сур'ёзнае спустошэнне.**

Галава можа балець у кожнага з нас. І таму няма прычыны, каб трапляць у паніку і адразу шукаць у сябе ўсялякіх сур'ёзных хвароб. Але калі галаўны боль не ўступае, не праходзіць даўжэйшы час, вяртаецца, перашкаджае нам працаваць — абавязкова патрэбны візіт у доктара.

(а-лів)

Аляксей Карпюк

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Бедныя нашы сяляне, да чаго ж засумаваліся па свабодзе! Наступныя некалькі дзён вёскі жылі так, быццам наступіла вялікае свята. Ніхто нічога не рабіў, толькі збіраліся па хатах і тысячны раз апавядалі адны другім, што здарылася з эшалонам. Зноў з'явілася слова ПАРТЫЗАНЫ. Яго вымаўлялі паціху, нібы пабожна, укладаючы сваю надзею і любоў. Часамі замест ПАРТЫЗАНЫ проста казалі ЯНЫ, — гэта азначала дужыя, адважныя, усясільныя. Разбіты цягнік на двое сутак затрымаў рух на чыгунцы, і людзі цешыліся:

— Аж рэйкі паржавелі. Такога не было з пачатку вайны!

Дзядзькі кожную ноч ішлі вартаваць пуць і стараліся атрымаць участак бліжэй да Сухіх Багенцаў, каб сваімі пальцамі памацаць пакарэжанае жалеза, прынесці жонцы, дзецям трэску ці вінт ад разбітых вагонаў. Нічога, што цягнік трапіўся паражняк, які вяртаўся з фронту. Усе ўбачылі: вораг не так і страшны, ёсць людзі, якія яго б'юць, яны недзе тут, можа ў вёсцы, у лесе. І народная фантазія не мела граніц.

— Ах, Ма-анечка, — бажылася цётка Кірыліха маёй маці, — я сама бачыла ўчора каля лесу людзей са стрэльбамі і чырвонымі істужкамі цераз плячо. Адзенне на іх з іголачкі, самі ўсе рослыя, маладыя, бы твае хлопцы. Прыходзілі да мае нявесткі вады напіцца. Яна хацела накарміць, то яны заявілі — не хочам! У нас

112

усё ёсць. Калі ежа выйдзе, то даем па радзіву цілеграму ў Маскву і самалёты прывозяць нам, што толькі душа пажадае!

А стары страшавец Кот хваліўся бацьку:

— Учора ноччу бачыў іх на свае вочы. Ішлі некуды паўз мой хутар. Мо' полк, а мо' і болей. Быццам цёмная сцяна лесу.

Пры такіх фантастычных апавяданнях нямецкая разведка нічога не магла разабраць. Нікога не арыштавалі. Толькі цяпер ноччу нельга было знайсці на чыгунцы мясціны без варты. Паязды пачалі хадзіць памалу, іх можна было даганяць пешшу.

*

Не многія баявыя аперацыі каштавалі мне столькі і так запомніліся, як вяртанне ў лагер. Настала поўнач, а Мішка ўсё не гатовы. На пліце даварваецца мяса. Сам гаспадар з брызенту шые паходную торбу.

Яму дапамагае новы сябра, Віктар, які ўцёк з палону і хаваўся ў Зубрах. Белабрысы хлапец мае ад сілы дзевятнаццаць, шчупленькі, са знясіленым у лагеры арганізмам: не магу сабе ўявіць яго партызанам.

— Торба, ежа, — зразумела, — гавару Марчыкаву сыну.

— А фотаапарат з сабой браць?

— О, бяры! — радуюся. — Наробіш нам здымкаў на памяць у Гута-Міхаліне. Цікава будзе паглядзець на сябе праз дваццаць год!

Але шкадую, што параіў. Мішка шукае фотапрылады, зацягвае зборы яшчэ болей. Дакешкаліся мы да поўначы. Цяпер можна было б пераспаць на хутары, каб выйсці звечара. Тады тырчы тут зноў ледзь не суткі.

113

Пад раніцу мы ўсё ж такі выходзім.

Да світання апынаемся на полі суседняй вёскі Зубры.

У хвойнічку выбіраем зацішнае месца, дзе прыпякае сонца, кладзёмся днюваць.

Ідзе другая палова сакавіка.

Дні стаяць доўгія, але ж яшчэ настолькі халадна, што непрызвычаеныя людзі спаць на зямлі не могуць. Хлопцы прыкідваюцца, што не маюць у гэтым патрэбы, і ўпэўнена збіраюцца чакаць вечара.

Дастаюць мяса. Каб нагрэцца, наліваюць самагонкі.

— А здорава, калі ўсё прадбачыш! — выхваляецца Мішка. — У бок грэе дыван, з сярэдзіны — малачко!

— Ад шалёнай кароўкі! — пырскае Віктар.

— Піце, чорт вас бяры, а мяне да вясны не будзіць!

Кладуся пад куст і засынаю.

Падвечар прачынаюся, а сябры — раздражнёныя, абяссіленыя, з пашарэлымі тварамі. Нам жа столькі дарогі наперадзе, што з гэтымі дзецьмі рабіць буду!

Але ў дарозе хлопцы разаграваюцца, весялеюць. Усё ідзе нармальна, пакуль не ўзыходзім на балота. Дарогу перасякае рэчка! Знаходзім кладку. Зноў натыкаемся на ваду. І так цэлую ноч. Пад мястэчкам Свіслач пачынаюць нам пяяць другія пеўні. Пакуль абысці горад, развіднее зусім, а там чыгунка, на ёй варта з сялян, адно пакажыся, так і пачнуць званіць у рэйкі. Вяду хлопцаў проста ў горад. Свіслач з Мішкам ведаем добра, — наш раённы цэнтр.

114



 

